Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 12 21-27 ліпеня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## 5 ПРАГРАМ тэлебачання —

3-я старонка

**Анонс**

## Добрай кавы на паліцах маладзечанскіх крам днём з агнём не знойдзеш.

Аб якасці таго, чым нас корміць гандаль, вы прачытаеце ў наступным нумары нашай газеты ў матэрыяле Ірыны ШАСТАКОВІЧ «Перш чым набыць замежны тавар, зірніце на абгортку!»

## Ах, лета!

***Для дзятвы лепш гэтай пары ніколі не было. Ва ўсе часы. Што ім турботы і клопаты дарослых, неўладкаванасць побыту. Купайся, загарай! Наперадзе яшчэ столькі цёплых пагодных дзён!***

Гэты здымак зроблены карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» на Нарачы ў вядомым далёка за межамі нашага краю і краіны летніку «Зубраня». Дзіцячы лагер і сёлета апраўдвае славу лепшага сярод месцаў для адпачынку дзяцей у Беларусі. Сотні хлапчукоў і дзяўчат тут не толькі папраўляць сваё здароўе, адпачнуць, але і завяжуць новыя знаёмствы са сваімі аднагодкамі. Хіба гэта калі забудзецца?

*Аддзел інфармацыі*



**Навіны рэгіёна**

## —Знаёмцеся: Волечка Азарынская!

***ВІЛЕЙКА. Такія словы гучаць у гэтыя дні на сцэнічных пляцоўках Віцебска, дзе праходзіць фестываль «Славянскі базар».***

11-гадовая салістка вілейскага дзіцячага вакальна-інструментальнага калектыву «Экспромт», якім кіруюць муж і жонка Алег і Нэла Зайцавы, павезла ў горад над Дзвіной праграму з сямю песнямі. А пад яе «Чароўны дождж», сказала Нэла Зайцава карэспандэнту «РГ», на галоўнай сцэне фестывалю будзе танцаваць харэаграфічны калектыў з Віцебска «Зорка».

*Мікола ГАЙДУК.*

## І рэжуць па начах цялят, падсвінкаў...

***МЯДЗЕЛ. Апошнім часам у раёне становяцца вельмі «моднымі» крадзяжы жывёлы з ферм гаспадарак.***

— Гэтаму, — расказвае начальнік штаба Мядзельскага РАУС Віктар Марозаў, — садзейнічаюць нядбайныя адносіны кіруючых кадраў да народнага дабра. На многіх фермах, на момант учынення злачынстваў, не было ніякіх вартаўнікоў. Чаму ж несумленным людзям не красці?

І крадуць. Так, з фермы «Завуголле» калгаса «Бальшавік» прапала добрае цяля кілаграмаў на 130. Цікава, што зарэзалі яго прама на ферме, пагрузілі ў легкавік і паехалі, як гаворыцца, у невядомым напрамку.

Можна меркаваць, што нямала было віскату і на ферме «Памошша» калгаса імя Калініна, калі невядомыя «пазбаўлялі там жыцця» ладную свінню больш як на цэнтнер. А цяпер — шукай, міліцыя, ветру ў полі.

Менш удачлівым аказаўся жывёлавод з фермы «Крапіўна» дапаможнай сельскай гаспадаркі «Дзягілі» Б. Ён наогул пачаў паціху распрадаваць цялят направа і налева. За апошнюю галаву, як паведамілі ў міліцыі, выручыў «аж» 120 тысяч рублёў. Але нават гэтыя невялікія грошы не пайшлі Б. на карысць. Купіў ён на іх спіртнога, добра выпіў. А потым учыніў хуліганства, за што і арыштаваны на 10 сутак. Як чытачы разумеюць, гэта для злодзея — кветачкі, а ягадкі яго чакаюць наперадзе.

*Наш кар.*

## Пацеркі — вачэй не адвесці

***ВАЛОЖЫН. Тры гады таму у калгасе «Праца» Валожынскага раёна распачалі нязвыклую для вёскі справу — рызыкнулі наладзіць выпуск ювелірных вырабаў. У асноўным гэта бурштынавыя ўпрыгажэнні для жанчын. З поспехам прадаюцца вырабы мясцовых майстроў у многіх магазінах Белювеліргандлю.***

Завушніцы, кулоны, бранзалеткі, шпількі — усяго трыццаць найменняў вырабаў асвоілі майстры-ювеліры. У гаспадарцы адкрылі свой фірменны магазін. Бурштынавай прадукцыяй зацікавіліся заказчыкі з Польшчы, Італіі, Швейцарыі.

У будучым на базе існуючага цэха збіраюцца адкрыць самастойнае прадпрыемства. Тут мяркуюць апрацоўваць не толькі сыравіну, закупленую ў Калінінградзе, але і беларускую бурштынавую смалу, радовішча якой выяўлена на Брэстчыне. Гэта будзе вядучае ў рэспубліцы прадпрыемства па перапрацоўцы бурштыну.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## А раптам гэты фонд нам дапаможа?

***МАЛАДЗЕЧНА. Узаемадапамога — асноўны прынцып дзейнасці Беларускага грамадскага фонду развіцця «Грамадзянская салідарнасць», філіял якога распачаў сваю дзейнасць у Маладзечне пад дырэктарствам выпускніцы СШ N5 Аксаны Леановіч.***

Заплаціўшы ўступны ўзнос у памеры аднаго працэнта ад мінімальнай зарплаты і здаючы штомесячна членскія ўзносы, члены фонда ўжо сёння могуць атрымаць бясплатныя юрыдычную кансультацыю, медыцынскія і бытавыя паслугі, дапамогу ў атрыманні крэдытаў і адукацыі. Маладзечанскі філіял з першых крокаў заявіў аб сабе, распрацаваўшы праграму бытавых паслуг. У хуткім часе ён адкрые свае цырульню і магазін.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Праваслаўных чакае свята

ВАЛОЖЫН. З 22 па 26 ліпеня ў Беларусі будзе знаходзіцца Святейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі Алексій II. Мэта яго візіту — аддаць даніну павагі беларускаму народу, які не скарыўся перад фашысцкімі захопнікамі, ушанаваць памяць загінуўшых.

23 ліпеня Яго Святасць, Святейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі Алексій II наведае Валожынскі раён. Першы прыпынак будзе ў 15 гадзін 40 хвілін у вёсцы Доры, дзе Патрыярх правядзе малебен на месцы мемарыялу, дзе немцы спалілі ў царкве мірных вяскоўцаў, асвеціць месца для будаўніцтва новага храма. У гэты ж дзень у 17 гадзін Алексій II наведае Свята-Канстанцін-Аленінскую царкву, дзе правядзе заздраўны малебен і прыпадасць усім агульнае блаславенне.

*Васіль ПЕТРАШЭВІЧ.*

## Скаўты выбіраюць Свір

***МЯДЗЕЛ. Гэтымі днямі на беразе возера Свір, дзе Аб'яднанне беларускіх скаўтаў (АБС) праводзіць свой летнік, з'ехаліся з розных куткоў Беларусі юнакі і дзяўчаты.***

Праграма, якую даслаў у рэдакцыю сябар Рады АБС настаўнік Сырмежскай СШ Бярнард ПАКУЛЬНІЦКІ, прадугледжвае, сярод іншага, арыентаванне на мясцовасці, конкурс побыту, водная падарожжа на лодках да дзейнічаючага касцёла кармелітаў, знаёмства з дойлідствам і гісторыяй, віктарыну па геаграфіі Беларусі, спартыўныя гульні, грамадскакарысную працу, конкурс малюнкаў і літаратурных твораў, конкурс кухараў, і, вядома, канцэрт пры вогнішчы.

*Аддзел інфармацыі.*

**Крымінал**

## Грамадзянін Д. націснуў на газ. Але яго знойдуць

***Цяпер вельмі многія гараджане прыязджаюць за многія дзесяткі кіламетраў на возера Нарач адпачыць на дзень-другі. І рэдка ў якой кампаніі абыходзіцца без саліднай выпіўкі. Толькі вось завяршаюцца такія «застоллі» на ўлонні маляўнічай прыроды часам даволі трагічна. Як гэта адбылося днямі на тэрыторыі тургасцініцы «Нарач», дзе адпачывала група мінчан.***

Практычна ўсю ноч яны «гудзелі», а цхім ліпеньскім ранкам нешта не падзялілі. У руках аднаго з жыхароў сталіцы Д. бліснуў нож і мінчанін А. Жывіцкі ўпаў на зямлю. Ужо ў раённай бальніцы ўстанавілі, што лязо закранула нават сэрца. На шчасце, пацярпеўшы, правёўшы некалькі дзён у рэанімацыйным аддзяленні, пайшоў на папраўку.

Грамадзянін жа Д., убачыўшы, што нарабіў, даўся з месца здарэння наўцёкі. Ён ускочыў у «Мерседэс-190», націснуў на газ. На адным з участкаў дарогі не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў дрэва. Кінуўшы разбітую іншамарку, паехаў далей на спадарожнай машыне...

Толькі вось ці дапамогуць Д. гэтыя ўцёкі, калі міліцыя дакладна ведае каго і дзе трэба шукаць за ўчыненае злачынства?

*Наш кар.*

